❑ **Палітычны крызіс: ці бачыцца выйсце?** 1-я стар.

❑ **Самотная постаць у асеннім полі: галодная бабуля збірае недакапаную бульбу.** 2-я стар.

❑ **Рэха скандальных «шалёных кароў» на Баранавіцкім мясакамбінаце.** 2-я стар.

❑ **Нетыповая судовая справа: на лаве падсудных — міліцыянеры.** 4-я стар.

ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

20 лістапада 1996 г. серада, № 271 (23074)

# БАРЫСАЎЧАНЕ ВЫКАЗАЛІ ПАДТРЫМКУ КУРСУ ПРЭЗІДЭНТА КРАІНЫ

«Я прыму ўсе меры для таго, каб рашэнні маючага адбыцца рэферэндуму былі абавязковымі не толькі для дэпутатаў Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў, але і для членаў Канстытуцыйнага суда». Так заявіў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка на мітынгу, які адбыўся 19 лістапада ў Барысаве. На цэнтральную плошчу горада прыйшло каля 50 тысяч барысаўчан, каб выказаць падтрымку кіраўніку дзяржавы ў вострай палітычнай сітуацыі, што склалася ў нашай краіне.

«Народ даў мне ўладу не для таго, каб я аддаў яе на водкуп авантурыстам, — сказаў у сваім выступленні Прэзідэнт. — Вопыт 91-га года, калі распаўся Савецкі Саюз, хочуць паўтарыць тыя, хто тады разваліў вялікую краіну». Ён падкрэсліў, што правакацыі, накіраваныя на зрыў рэферэндуму, працягваюцца кожны дзень. У той жа час, лічыць Прэзідэнт, у Вярхоўным Савеце ёсць дастатковая колькасць разважных парламентарыяў, якія хочуць дапамагчы знайсці выйсце з палітычнага крызісу.

Аляксандр Лукашэнка праінфармаваў прысутных аб тым, што раніцай гэтага ж дня адбылася яго сустрэча больш чым з 80 дэпутатамі, якія заявілі аб сваёй падтрымцы кіраўніка дзяржавы. Ён выказаў надзею, што гэтыя дэпутаты могуць стаць ядром будучага парламента.

Коратка ахарактарызаваўшы палітычную сітуацыю ў краіне, Прэзідэнт заклікаў удзельнікаў мітынгу прыйсці на рэферэндум і прагаласаваць так, як ім падказвае сумленне. Ён таксама выказаў сваю пазіцыю па пытаннях, вынесеных на плебісцыт. «Вы будзеце галасаваць не за Лукашэнку, — сказаў Прэзідэнт, — а за будучыню сваіх дзяцей. Трэба зрабіць усё, каб не ўцягнуць нашу краіну ў хаос».

Палітычная напружанасць у грамадстве, як неаднаразова прызнаваўся сам Прэзідэнт, не дае магчымасці яму ўдзяляць эканамічным праблемам столькі часу, колькі гэтага патрабуецца. І цяперашняя рабочая паездка кіраўніка дзяржавы прадугледжвала перш за ўсё вырашэнне канкрэтных задач на прамысловых і сацыяльных аб'ектах Барысава. Аднак падзеі апошніх дзён прымусілі яго скараціць час паездкі ў гэты горад. Тым не менш, нават у такія сціслыя тэрміны Прэзідэнт пачаў сваё знаходжанне ў Барысаве з дэталёвага вывучэння работы мясцовага завода медыцынскіх прэпаратаў.

Прадукцыю гэтага прадпрыемства ведае практычна кожны жыхар нашай рэспублікі. Тут вырабляюцца анальгін, дыбазол, настойкі валяр'яну і сардэчніку, мноства антыбіётыкаў і іншых лекавых сродкаў, якія карыстаюцца вялікім попытам у насельніцтва. Усяго выпускаецца больш за дзвесце назваў прадукцыі, 53 з якіх уваходзяць у пералік жыццёва неабходных прэпаратаў.

Агледзеўшы завод, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што гэта высокатэхналагічнае прадпрыемства, якое павінна развівацца і нарошчваць вытворчасць. І хоць тут даволі стабільная эканамічная сітуацыя, тым не менш хапае праблем, уласцівых усёй беларускай фармацэўтычнай прамысловасці. Пра іх ішла размова на нарадзе, якую на заводзе правёў Прэзідэнт з членамі Кабінета Міністраў і кіраўнікамі фармацэўтычнай прамысловасці. Па выніках гэтай нарады кіраўнік дзяржавы паставіў задачу да 1 студзеня выпрацаваць адзіную канцэпцыю забеспячэння насельніцтва лякарствамі. Перш за ўсё яна датычыць пытанняў цэнаўтварэння, каб медыцынскія прэпараты былі даступныя насельніцтву рэспублікі. Гэта будзе першым крокам у ажыццяўленні рэформаў айчыннай сістэмы аховы здароўя, правядзенне якіх намечана Прэзідэнтам на наступны год.

У гэты ж дзень кіраўнік дзяржавы агледзеў яшчэ адзін важны для інфраструктуры горада аб'ект — праціпаводкавыя і ачышчальныя збудаванні. Іх будаўніцтва вядзецца яшчэ з застойных часоў, а барысаўчане штогод цярпяць ад веснавой паводкі. Толькі ў 1994 годзе было затоплена больш за тысячу дамоў. Таму завяршэнне будоўлі кіраўнік дзяржавы назваў адной з самых важных задач для гарадскіх уладаў і паабяцаў фінансавую падтрымку для гэтых аб'ектаў.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

# «РЭФЕРЭНДУМ ПАТРЭБНЫ НЕ ПРЭЗІДЭНТУ А. Р. ЛУКАШЭНКУ, А ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ХТО Б ІМ НІ БЫЎ!»

У асяроддзі палітыкаў і грамадскасці не сціхаюць дэбаты аб сутнасці і мэтазгоднасці рэспубліканскага рэферэндуму. Свой пункт гледжання аб ім карэспандэнту весніка БЕЛТА «В кабинетах власти» выказаў памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь доктар эканамічных навук прафесар Пётр Капітула. Пры гэтым ён асабліва падкрэсліў, што яго пазіцыя не ёсць пазіцыя паслухмянага падначаленага.

Па-першае, падкрэсліў Пётр Капітула, да правядзення такога рэферэндуму як бы падштурхоўвае сама дзеючая Канстытуцыя. У ёй жа недастаткова выразна, а дакладней, фармальна рэалізаваны абвешчаны ёю прынцып падзелу ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Гэта фармальнасць праяўляецца ў незбалансаванасці паўнамоцтваў і адказнасці заканадаўчай і выканаўчай уладаў.

Наша Канстытуцыя замацоўвае за парламентам вялікія ўладныя паўнамоцтвы ў кіраванні грамадскімі працэсамі. І гэта пры тым, што парламент не нясе і як калектыўны орган не можа і не павінен несці адказнасці за кіраванне рознымі бакамі грамадскага жыцця. Аб якім рэальным падзеле ўлады можа ісці размова, калі, напрыклад, парламент мае права аб'явіць імпічмент Прэзідэнту, а Прэзідэнт краіны пазбаўлены права роспуску парламента? Непрадузятая ацэнка толькі гэтай сітуацыі сведчыць, што дзеючая Канстытуцыя дапускае магчымасць палітычных гульняў, як кажуць, у адны вароты.

Канстытуцыйнае правіла такой гульні выключае пазітыўнае супрацоўніцтва заканадаўчай і выканаўчай галін улады і непазбежна выклікае крызіс улады. Гэта ператварае парламент у орган легальнай палітычнай барацьбы як паміж рознымі палітычнымі партыямі, так і ў арэну сутычак з выканаўчай уладай розных палітычных партый, якія справядліва прэтэндуюць на ўладу. Працэс ператварэння парламента ў легальны орган палітычнай барацьбы аб'ектыўна паскараецца нізкім узроўнем палітычнай культуры, што характэрна для перыяду станаўлення шматпартыйнай сістэмы і дэмакратычных пераўтварэнняў у грамадстве, адзначыў Пётр Капітула.

Па-другое, сказаў ён, канстытуцыйная рэформа неабходна таксама і таму, што цяперашняе заканадаўства, створанае яшчэ ў нетрах былога Саюза ССР і ў эпоху «развітога сацыялізму», не адпавядае патрабаванням сённяшняга дня, рэаліям сучаснага грамадскага жыцця. Стварыць у кароткі час і тым больш у пераходны перыяд развіцця краіны якасна новую заканадаўчую базу ні парламент, ні выканаўчая ўлада ў прынцыпе не могуць. Але і з аглядкай назад выканаўчая ўлада не можа будаваць сваю работу.

Дзе ж выйсце? Толькі ў пашырэнні канстытуцыйных паўнамоцтваў Прэзідэнта краіны і ў наданні яго ўказам сілы закона да прыняцця парламентам адпаведнага закона.

На жаль, падкрэсліў Пётр Капітула, Вярхоўны Савет 12-га і 13-га скліканняў, выкарыстаўшы канстытуцыйнае права «гульні ў адны вароты», адмовіўся ад пошуку магчымых выхадаў з узнікшай сітуацыі і стаў на шлях адкрытай палітычнай барацьбы з выканаўчай уладай, і перш за ўсё з Прэзідэнтам. А фармальных падстаў для такой барацьбы дастаткова. Галоўная з іх заключаецца ў тым, што многія ўказы Прэзідэнта краіны не адпавядаюць дзеючаму заканадаўству, а нярэдка і Канстытуцыі. Парламент, які не можа або не жадае займацца ўдасканаленнем дзеючага заканадаўства, уключаючы і Асноўны закон краіны, можа без вялікіх намаганняў дабіцца адмены ўказаў Прэзідэнта як не адпаведных дзеючаму заканадаўству. Пры гэтым Канстытуцыйнаму суду зусім не трэба турбавацца аб абавязку разглядаць пытанне аб адпаведнасці дзеючага заканадаўства як дзеючай Канстытуцыі, так і рэаліям сённяшняга дня. Прасцей за ўсё абвінаваціць непаслухмянага Прэзідэнта, якім аказаўся Аляксандр Лукашэнка, у парушэнні і Канстытуцыі, і дзеючага заканадаўства, а затым і зусім адхіліць яго ад улады і паскорыць выбары новага і больш паслухмянага кіраўніка дзяржавы.

Хачу тут заўважыць, адзначыў далей Пётр Капітула, што парламент і Канстытуцыйны суд выбарачна падыходзілі і падыходзяць да апратэставання ўказаў Прэзідэнта. Увогуле ж падлягала адмене значна большая іх частка. Але адмова ад выбарачнага падыходу хутчэй адкрыла б вочы народу на тое, што Прэзідэнт звязаны па руках і нагах дзеючым заканадаўствам і дзеючай Канстытуцыяй і што парламент і Канстытуцыйны суд замест канструктыўнай работы займаюцца палітычнымі гульнямі. Выбарачны падыход прадвызначаўся нярэдка і меркантыльнымі інтарэсамі парламентарыяў і членаў Канстытуцыйнага суда.

Такім чынам, канстытуцыйная рэформа непазбежная, калі Асноўны закон не забяспечвае раўнавагі паміж заканадаўчай і выканаўчай галінамі ўлады. І яна патрэбна не Прэзідэнту краіны А. Р. Лукашэнку, а Прэзідэнту краіны, хто б ім ні быў.

На думку Пятра Капітулы, неабходнасць канстытуцыйнай рэформы дыктуецца яшчэ і пераходным перыядам, у якім мы жывём. Рэфарміраванне ўсіх бакоў грамадскага жыцця немагчыма без змянення ролі дзяржавы ў кіраванні сацыяльна-эканамічнымі працэсамі. І калі Прэзідэнт бярэ на сябе адказнасць за паспяховасць рэфарміравання ўсіх бакоў жыцця, за вывад краіны з зацяжнога эканамічнага і палітычнага крызісу і просіць у народа дадатковых паўнамоцтваў, то адмову ў такой просьбе наўрад ці трэба расцэньваць як самае мудрае рашэнне.

Вядома ж, можна спрачацца адносна магчымых станоўчых і негатыўных вынікаў узмацнення ўлады адной асобы. Але сёння такая дыскусія марная і дастойная хіба акадэмічных трыбун. На мой погляд, лічыць Пётр Капітула, бясспрэчна, што ў Беларусі, а яна знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, якая прагрэсіўна развіваецца, стварыць таталітарную дзяржаву не ўдасца ніводнаму Прэзідэнту краіны, хто б ім ні быў. Пры гэтым ніхто не мае маральнага права ігнараваць і той факт, што Прэзідэнт — адзіны прадстаўнік народа, які дае клятву верна служыць яму.

**Ларыса НЯКРАСАВА, БЕЛТА.**

## АСНОЎНАЯ ТЭМА СУСТРЭЧ — СІТУАЦЫЯ Ў КРАІНЕ

**Палітычны крызіс у Беларусі, абумоўлены вострым процістаяннем заканадаўчай і выканаўчай галін улады, пошукі шляхоў стабілізацыі ў грамадстве — гэтыя пытанні сталі галоўнымі на сустрэчы Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі з групай парламентарыяў.**

Яна адбылася 19 лістапада ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы, у ёй прынялі ўдзел больш за 80 дэпутатаў. На сустрэчы падкрэслівалася асаблівая роля Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда ў вырашэнні праблем, звязаных з правядзеннем рэспубліканскага рэферэндуму.

У асноўным тыя ж пытанні абмяркоўваліся і на сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі са старшынёй Канстытуцыйнага суда Валерыем Ціхіняй. Як прадугледжваецца, іх дыялог будзе прадоўжаны пасля вяртання Прэзідэнта з Барысава, куды кіраўнік дзяржавы адправіўся ў планавую рабочую паездку ў першай палове таго ж дня.

**БЕЛТА.**

## ВЫБУХ, ЯКІ ТАК І НЕ ПРАГРЫМЕЎ

**Яшчэ адзін «запланаваны» выбух чыгуначнага вакзала так і не адбыўся, аднак некалькі гадзін віцябляне ўсё ж такі правялі ў трывозе...**

Як паведамілі ў прэс-групе Упраўлення ўнутраных спраў на транспарце, 17 лістапада ў 11 гадзін 53 хвіліны ў віцебскі аддзел транспартнай міліцыі з дзяжурнай часці УУС Віцебскага аблвыканкома паступіла паведамленне аб мініраванні Віцебскага чыгуначнага вакзала.

У 12.20 абслуговы персанал і пасажыры з замініраванага памяшкання былі эвакуіраваны. Аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы праводзіліся сіламі асабовага саставу Віцебскага АУС на транспарце, чыгуначнага РАУС, а таксама сапёрамі адной з мясцовых вайсковых часцей. На шчасце, трывога аказалася беспадстаўнай, паколькі інфармацыя ананіма не пацвердзілася. Ужо к 14.30 работа чыгуначнага вакзала ў Віцебску была нармалізавана. Затрымкі ў руху паяздоў не адбылося.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## УДАКЛАДНЕННЕ

Калектыў Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк» з неўразуменнем успрыняў публікацыю С. Куркача «Як даведацца праўду аб 5-працэнтным крэдыце на жыллё?» («Звязда» ад 15 лістапада г.г.), у якой аўтар прывёў недакладную інфармацыю, сказіўшы рэальныя факты.

Установы «Беларусбанка» гатовы пачаць крэдытаванне будаўніцтва жылля для моладзі ў адпаведнасці з Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 358 «Аб мерах па паляпшэнню жыллёвых умоў моладзі» і № 428 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 10 верасня 1996 г. № 358». Спецыялістамі банка сумесна з Дзяржаўным камітэтам па справах моладзі распрацаваны і зацверджаны ўмовы і парадак прадастаўлення льготных крэдытаў маладым грамадзянам. Днямі ў Гомелі на базе абласнога ўпраўлення ААБ «Беларусбанк» праведзены рэспубліканскі семінар па гэтай праблеме. Выдача льготных крэдытаў для жыллёвага будаўніцтва моладзі пачнецца пасля прадастаўлення аблвыканкомамі спісаў грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і права на атрыманне такіх крэдытаў. Паводле Указа Прэзідэнта, тэрмін прадастаўлення гэтых спісаў заканчваецца 10 снежня 1996 г. Пытанні ж пастаноўкі на ўлік для паляпшэння жыллёвых умоў, зразумела, не знаходзяцца ў кампетэнцыі банка.

На жаль, аўтар не ўнік у сутнасць праблемы і тым самым увёў у зман чытачоў паважанай газеты.

**Прэс-служба ААБ «Беларусбанк».**

## ГАМЯЛЬЧАНЕ ВЫЙШЛІ НА ПЛОШЧУ І ВЫКАЗАЛІ ПАДТРЫМКУ ПРЭЗІДЭНТУ

У час візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Гомель, які адбыўся 18 лістапада, кіраўнік дзяржавы неаднаразова сустракаўся з прадстаўнікамі працоўных калектываў гэтага абласнога цэнтра, і ўсюды, пачынаючы ад навукова-вытворчага аб'яднання «Ратон» і заканчваючы жаночай калоніяй, людзей цікавіла палітычная сітуацыя ў Беларусі, а таксама шляхі дасягнення стабільнасці ў нашым грамадстве. Найбольш поўныя адказы на гэтыя і іншыя пытанні Прэзідэнт даў у ходзе мітынгу, які адбыўся на плошчы Леніна і сабраў дзесяткі тысяч гараджан.

Мітынг адкрыў старшыня Гомельскага аблвыканкома Павел Шыпук, які ад імя прысутных вітаў Прэзідэнта на гомельскай зямлі. Усе прамоўцы, што выступілі затым, таксама далучыліся да гэтых прывітанняў і ў сваю чаргу выказалі падтрымку ініцыятывам кіраўніка дзяржавы, якія накіраваны на інтэграцыю і правядзенне ўсебеларускага рэферэндуму. Але апагеем мітынгу, зразумела, стала выступленне Аляксандра Лукашэнкі, у якім ён папрасіў грамадзян падтрымаць яго на маючым адбыцца народным рэферэндуме.

«24 лістапада вырашаецца лёс не толькі мой, — сказаў Прэзідэнт, 24 лістапада вырашаецца не толькі лёс людзей, якія стаяць на гэтай плошчы, нават вельмі маладых і юных. Але ёсць яшчэ самыя маленькія, якія толькі-толькі ўступаюць у гэта жыццё, і 24 лістапада ў першую чаргу будзе вызначацца іх лёс».

Кіраўнік дзяржавы запэўніў прысутных, што 25 лістапада ўсё будзе расстаўлена на свае месцы. Ён заклікаў народ вярнуць усё добрае, што было ў нашай гісторыі, адкінуць усё дрэннае і разам будаваць жыццё ў Беларусі. Прэзідэнт таксама растлумачыў прысутным асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года і папрасіў іх прагаласаваць на рэферэндуме супраць увядзення прыватнай уласнасці на зямлю, за перанос Дня незалежнасці на 3 ліпеня і за ўнясенне паправак у Канстытуцыю, што прапанаваны ім.

«Вы прыйдзеце на рэферэндум і будзеце вызначаць свой лёс, галасуючы па двух праектах Канстытуцыі: праекту Прэзідэнта і праекту Вярхоўнага Савета. Галоўнае адрозненне гэтых праектаў заключаецца ў тым, што дэпутаты Вярхоўнага Савета прапануюць ліквідаваць інстытут прэзідэнцтва. Паверце, справа не ў Прэзідэнце Лукашэнку. Сёння Лукашэнка, заўтра — нехта іншы. Галасуючы па праектах Канстытуцыі, вам прыйдзецца рабіць выбар паміж хаосам, паміж уседазволенасцю, парадкам і дысцыплінай. Знішчыце першага Прэзідэнта, дзе гарантыя, што не захочацца знішчыць і другога, і трэцяга, пакуль не дойдзе да крыві».

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, многія лічаць, што калі ён прайграе на рэферэндуме, процістаяння не пазбегнуць і Прэзідэнта трэба звяргаць. Але кіраўнік дзяржавы яшчэ раз заявіў, што ўладу, дадзеную народам, ён нікому не аддасць і выкарыстае ў імя народа. «Мы спакойна, ціха, без амбіцый выйдзем з узнікшай сітуацыі», — заявіў Прэзідэнт.

Кіраўнік дзяржавы таксама расказаў гамяльчанам аб сваёй пазіцыі адносна расшырэння НАТО на Усход, аб паглыбленні інтэграцыі з Расіяй. Гаворачы пра прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, які падаў прашэнне аб адстаўцы, Прэзідэнт зноў падкрэсліў, што ў нас незаменных людзей няма і на гэту пасаду заўсёды можна знайсці больш дастойнага чалавека.

На заканчэнне Аляксандр Лукашэнка пажадаў жыхарам Гомеля шчасця і дабрабыту і яшчэ раз заклікаў падтрымаць яго на маючым адбыцца ўсенародным рэферэндуме, выказаўшы перакананне, што народ Беларусі зробіць правільны выбар.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## Парламентарыі не выключаюць кампрамісу. Ідуць адпаведныя кансультацыі

У аўторак стаў вядомы тэкст заявы прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра на імя Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, якая была падпісана 18 лістапада ў 9.30. «Лічу неабходным заявіць аб маім асуджэнні праводзімай вамі ўнутранай і знешняй палітыкі, а таксама адыходам ад курсу эканамічных рэформаў. Катэгарычна пярэчу супраць правядзення 24 лістапада рэферэндуму, паколькі пры яго падрыхтоўцы дапушчаны шматлікія грубыя парушэнні заканадаўства, што выключаюць свабоднае волевыяўленне народа. Заклікаю ў імя стабілізацыі абстаноўкі ў рэспубліцы адмяніць намечаны рэферэндум. У адваротным выпадку прашу прыняць маю адстаўку». Адстаўка, як вядома, была прынятана Прэзідэнтам у той жа дзень а палове дзесятай вечара.

19 лістапада парламент падзяліўся на дзве часткі. З васьмі раніцы, паводле інфармацыі В. Новікава, каля 80 дэпутатаў прыбылі ў Адміністрацыю Прэзідэнта для сустрэчы з кіраўніком дзяржавы. Тым часам а 10 гадзіне большасць парламента, прыблізна 100 чалавек, не змагла сабраць кворуму. У Авальнай зале без рэгістрацыі была праведзена своеасаблівая нарада па праблеме далейшай палітыкі парламента ў сітуацыі, што склалася цяпер.

Аднак натуральна, што пытанні вырашаліся ў гэты час не ў Авальнай зале, а ў іншых месцах, дзе праводзіліся кансультацыі паміж кіраўніцтвам нашай краіны. У прыватнасці, Прэзідэнт сустрэўся са старшынёй Канстытуцыйнага суда В. Ціхіняй, і дамовіўся аб сустрэчы са спікерам парламента С. Шарэцкім пасля вяртання з рабочай паездкі ў Барысаў.

У 15.00 С. Калякін заявіў, што «на сёння розум ва ўсіх пануе над вар'яцтвам». Ён лічыць, што ёсць яшчэ шанц знайсці кампраміс у палітычным канфлікце іншым шляхам, чым паводле арт. 104 Канстытуцыі, г. зн. праз імпічмент, і не расколваць наша грамадства. С. Калякін заявіў, што адзін бок канфлікту ўжо выказаў свае падыходы, а іншы, прэзідэнцкі, асэнсоўвае іх. Аднак гэта не адмаўляе працэдуру імпічменту, якая запушчана. Віцэ-спікер Генадзь Карпенка паведаміў, што сабрана каля 80 дэпутацкіх подпісаў і яны разам з усімі неабходнымі дакументамі перададзены ў Канстытуцыйны суд, які іх прыняў. Працэс ідзе ў адпаведнасці з устаноўленым парадкам.

— Ёсць надзея, што канфлікт будзе вырашаны ў інтарэсах беларускага народа, — заявіў С. Калякін на прэс-канферэнцыі.

В. Новікаў магчымым кампрамісам назваў агучаны раней «нулявы варыянт», г. зн. адкліканне абодвух праектаў Канстытуцыі з рэферэндуму, а магчыма, і адмена самога рэферэндуму з тым, каб узгадніць праект новай Канстытуцыі і вынесці на рэферэндум толькі тыя некалькі пытанняў, па якіх не будзе дасягнута згода.

С. Калякін падкрэсліў, што парламент у цэлым не мае намеру адмяняць галасаванне на рэферэндуме, пераносіць яго на больш позні тэрмін, бо гэта было б палітычнай памылкай, якая паказала б дэпутатаў як ворагаў народнага волевыяўлення. Хаця такія прапановы гучалі ў парламенце.

Віцэ-спікер Г. Карпенка агучыў інфармацыю, што як быццам на буйныя мінскія прадпрыемствы накіраваны супрацоўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта для арганізацыі мітынгу ў падтрымку кіраўніка дзяржавы і забеспячэння дастаўкі рабочых на плошчу Незалежнасці, дзе ў гэты час праходзіць шматлюдны пікет у падтрымку Вярхоўнага Савета.

...У 16 гадзін дэпутаты сабраліся ў авальнай зале. Але толькі амаль праз гадзіну яны змаглі сабраць неабходны для пачатку пасяджэння кворум. Зарэгістраваўся 101 дэпутат. У фае і калідорах ВС можна было назіраць групы дэпутатаў ад фракцыі «Згода», якія прынцыпова адмаўляліся заходзіць у залу пасяджэння і рэгістравацца. Ад іх імя зрабіў заяву дэпутат А. Козыр. У гэтай заяве, у прыватнасці, зазначаецца, што 64 дэпутаты ствараюць «Сход дэпутатаў Вярхоўнага Савета» і адмаўляюцца супрацоўнічаць з большасцю. Прычынай для такога не прадугледжанага законам і рэгламентам расколу 64 дэпутаты назвалі спробу большасці ініцыіраваць імпічмент Прэзідэнту і адмяніць рэферэндум. Не пагадзіўшыся з гэтым і выказаўшы падтрымку А. Лукашэнку і рэферэндуму, яны і стварылі сваю асобную групу.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ГРОШЫ*

## Кастрычнік зноў паказаў перавагу долара над рублём. Наколькі прагназіруемы далейшы курс валюты?

**Падобна, што часам долар спрабуе стрымліваць свае «абавязацельствы» на беларускім валютным рынку, не пасылаючы на працягу некалькіх дзён беларускі рубель у накдаун. Наадварот, здараецца і такое, што ён пачынае крыху здаваць свае пазіцыі ў адносінах да ВУВ.**

Мінулы тыдзень, на якім падзеі на валютным рынку прынеслі палёгку нашай нацыянальнай валюце, характарызаваўся ваганнем рыначнага безнаяўнага долара ў межах ад 23.700 да 22.800 рублёў за долар. Наяўны долар таксама «здаў», і курс продажу яго складаў 22.000—22.500 рублёў пры курсе куплі 21.500—22.000 за долар. Спецыялісты, з якімі ўдалося пагутарыць, тлумачаць гэты факт ростам попыту на беларускі рубель. Банкіры адзначаюць тое, што на мінулым тыдні адбыўся значны адток наяўных беларускіх рублёў з камерцыйных устаноў у сувязі з выплатай зарплат і адлічэннем грошай у рэзервовы фонд Нацыянальнага банка. Што, несумненна, і ўзняло прэстыж ВУВ.

Між тым, на афіцыяльным рынку па выніках таргоў курс вырас на 50 пунктаў і склаў 15.100 рублёў за долар.

Трэба адзначыць, што камерцыйныя банкі, каб не адстаць ад неафіцыяльнага рынку пры продажы валюты выкарыстоўваюць трэцюю валюту і выходзяць за рамкі абавязковых 20.150 рублёў. Дарэчы, у параўнанні з кастрычнікам за апошні час рыначны курс долара вырас прыблізна на 3 тысячы рублёў. Што з нездаволенасцю было ўспрынята людзьмі, якія захоўвалі грошы на рублёвых дэпазітах, дзе даходнасць склала ўсяго толькі 3 працэнты. У той жа час па долару, хто менавіта яго трымаў у кішэнях, працэнт быў куды большы.

— Сапраўды, рост курса наяўнага долара за кастрычнік склаў прыкладна 8 працэнтаў, — тлумачыць сітуацыю віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі камерцыйных банкаў Міхаіл Кавалёў. — У сярэднім па абменных пунктах на пачатак кастрычніка курс складаў 18.540 рублёў за долар (20.084 рублі — на канец месяца). Заўсёды ў складаныя палітычныя моманты цяжка ўтрымаць нацыянальную валюту, у тым ліку і таму, што ў ход ідуць розныя абяцанні. За той жа кастрычнік маса наяўных грошай, ад якой залежыць і курс, павялічылася на 370 мільярдаў рублёў. Вось вам і рост курса долара. Пасля рэферэндуму сітуацыя стабілізуецца, і мяркую, што Нацбанк выраўнуе даходнасць па рублёвых і валютных дэпазітах і зробіць больш прывабным захоўванне зберажэнняў у нацыянальнай валюце.

— Наколькі прагназіруемы рост курса долара? Што мы будзем мець к канцу месяца, года?

— Усё залежыць ад таго, ці зможам мы ўтрымаць рост грашовай масы, рост зарплаты, нарэшце, калі не будзем атрымліваць незаробленых грошай. Тады рост курса можна спыніць. Думаю, што пасля рэферэндуму Нацыянальны банк будзе праводзіць больш жорсткую палітыку, што станоўча адаб'ецца і на валютным рынку.

І як пасляслоўе да раней сказанага. У прыватнай гутарцы карэспандэнта «Звязды» з работнікам аднаго з банкаў апошні заўважыў, што лістапад, несумненна, прынясе больш радасці ўладальнікам не рублёвага дэпазіта ў банках, а ўладальнікам наяўных долараў. Гэта было больш месяца назад. Мяркуючы па ўсім, ён не памыліўся.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## НА ФОНДАВЫМ РЫНКУ НОВЫЯ ПАПЕРЫ

**Сёння, 20 лістапада, адбудзецца першы выпуск доўгатэрміновых дзяржаўных аблігацый.**

Яго аб'ём складзе 30 мільярдаў рублёў, а тэрмін абарачэння — 1 год. Працэнтная стаўка даходу вызначана на ўзроўні 31 працэнта гадавых. Першапачатковымі трымальнікамі аблігацый стануць установы Міністэрства адукацыі.

**Дзмітрый ЖУК.**

## *Увага!* «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

Ужо тры гады ў нашай рэспубліцы праходзіць зямельная рэформа.

Якімі тэмпамі яна ідзе? Колькі каштуе гектар зямлі? Хто можа яе купіць? Як рэалізуецца права наследавання зямлі?

**На гэтыя і іншыя пытанні вам, паважаныя чытачы, адкажа старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах Рэспублікі Беларусь Георгій Іванавіч КУЗНЯЦОЎ.**

**«Прамая лінія» адбудзецца 20 лістапада. Вашых званкоў чакаем з 11 да 12 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне тэлефануйце па нумары 268-27-50.***

## КАРОЛЬ ІСПАНІІ ВЫКАЗАЎ ПАДЗЯКУ БЕЛАРУСКАМУ ПРЭЗІДЭНТУ

На адрас Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі 18 лістапада прыйшла тэлеграма з Мадрыда ад караля Іспаніі Хуана Карласа І. Ён падзякаваў кіраўніку нашай дзяржавы за сардэчнае віншаванне з нагоды нацыянальнага свята Іспаніі.

«Дазвольце мне зноў перадаць Вам, пан Прэзідэнт, мае найлепшыя пажаданні асабістага шчасця, міру і працвітання вашаму дружалюбнаму народу. З глыбокай павагай, кароль Хуан Карлас», — гаворыцца ў тэлеграме.

**БЕЛТА.**

## ПАСЛЯ ТАКОГА ДАЛЁКА НЕ АД'ЕДЗЕШ...

**На станцыі Рыжкавічы, што недалёка ад Шклова, 18 лістапада з поезда Днепрапятроўск — Санкт-Пецярбург на хаду быў выкінуты чалавек. Ім аказаўся жыхар Гомеля Г. На шчасце, ён застаўся жывы і змог даць міліцыі дакладныя звесткі аб двух невядомых, якія ўчынілі такое з чыста хуліганскіх намераў.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце, зламыснікі не змаглі далёка ад'ехаць. Дзякуючы аператыўным дзеянням работнікаў транспартнай міліцыі, хуліганаў затрымалі на станцыі Орша. Высветлілася, што гэта былі таксама жыхары Гомеля — М. і І. — 23- і 18-гадовыя маладыя хлопцы, непрацуючыя.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

● Сярод краін СНД і Балтыі Беларусь пасля Украіны заняла **лідзіруючае месца** па распаўсюджанню ВІЧ-інфекцыі сярод наркаманаў.

● Да 1 ліпеня 1997 года **будзе выплачана фінансавая дапамога** грамадзянам нашай краіны, якія пацярпелі ад нацыянал-сацыялісцкіх праследаванняў у гады другой сусветнай вайны.

● Падчас буйнамаштабнай аперацыі «Рубеж-96» пагранічных войскаў Беларусі затрымана **больш як 400 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы,** канфіскавана кантрабанды на суму больш як 3 мільярды рублёў.

● У рэспубліцы **ў мужчын** 60 працэнтаў злаякасных пухлін уяўляюць рак лёгкіх, страўнікава-кішачнага тракта і прастаты; **у жанчын** — рак малочнай залозы, страўнікава-кішачнага тракта, геніталій.

● За 9 месяцаў **рэспубліка завезла з-за мяжы прадуктаў** расліннага паходжання і харчовых прадуктаў на 561 мільён долараў, а **экспарт** склаў толькі 172 мільёны долараў.

● Па стану на 1 лістапада **запас** у дзяржаўным рэзерве **паліўнага мазуту** складаў 609 тысяч тон.

● На міжнародным семінары, што нядаўна адбыўся і быў прысвечаны праблемам турмаў у Еўропе, прагучала інфармацыя, што **Беларусь займае першае месца** ў Еўропе па колькасці зняволеных на 100 тысяч чалавек.



## «ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕМ РАЗАМ СА «ЗВЯЗДОЙ»

**Так напісала ў пісьме ў рэдакцыю Валянціна Мікалаеўна Вабішчэвіч з Капыльскага раёна.**

— Я вельмі задаволена, што маю добрую сяброўку «Звязду», — шчыра прызналася Валянціна Мікалаеўна. — Кажу так не таму, што стала ўладальніцай выйгрышу латарэі сярод падпісчыкаў газеты. Яна сапраўды для нашай сям'і з'яўляецца і дарадцам, і памочнікам. Дабрыню, узаемапавагу, справядлівасць і спагадлівасць да чужой бяды — вось што я адчуваю, калі ў рукі бяру маю «Звязду». Паверце, яе адчуваеш па гэтых якасцях сярод іншых выданняў, як, дарэчы, і чалавека сярод іншых людзей. Я працую сацыяльным работнікам, дапамагаю нямоглым старым людзям. Яны вельмі цікавяцца тым, што адбываецца ў нас у краіне, таму ўсё тое, пра што я даведваюся са «Звязды», — ведаюць і мае землякі. З задавальненнем чытаюць на роднай беларускай мове мае трое дзетак, вучні мясцовай школы. Сапраўды, усё пра Беларусь вядома, калі «Звязда» ў нашым доме.

Мы ўдзячныя журналістам «Звязды», якія, на наш погляд, найбольш аб'ектыўна і даходліва распавядаюць пра падзеі ў Беларусі, па ўсім бачна, вельмі спачуваюць людзям, хвалююцца за лёс маладога пакалення, за будучае роднай зямлі. Гэта вельмі важна і, паверце, так патрэбна нам, простым вясковым людзям. «Звязда» — старэйшая газета ў краіне, але, мне здаецца, застаецца маладой душой і сэрцам, калі можна так сказаць пра газету, і перадае гэта адчуванне сваім чытачам.

Калі вы заўважылі, мы рэдка змяшчаем словы ўдзячнасці газеце ад сваіх чытачоў, хоць, паверце, іх у нас шмат. Але тут здрадзілі сваёй традыцыі. Мы шмат сустракаліся з нашымі падпісчыкамі ў Капыльскім раёне, і ўсюды яны станоўча ацэньвалі работу калектыву «Звязды», якую тут чытаюць больш чым дзе-небудзь у краіне. Дзякуй вам за падтрымку, паважаныя чытачы. Заўсёды будзем разам!

**Уладзімір ПАЛЯШУК.**

*НА ЗДЫМКУ: Валянціна ВАБІШЧЭВІЧ і яе дзеці, атрымаўшы прыз «Звязды» (фен), сфатаграфаваліся на добрую памяць.*

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

